


# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

6 лістапада 2015 года №45 **(1071)**

## "Дажынкі" ў Вілейцы: Карта аб'езда



старонка 3

# Мы не ўмеем хадзіць у кавярні:

## "круглы стол" у "РГ"



старонка 21

Фота httppicsfab.com.

**Мэбля – не адзенне, якое панасіў і выкінуў. Выбіраем яе асэнсавана разам з "РГ"**

старонка 5

**Псіхічнае расстройства адольвае кожнага чацвертага. Чаму не трэба баяццаісці да доктара**

старонка 20

**20-гадовы работнік аўтапарка зламаў нагу пры рамонце МАЗа**

старонка 2

ЗДАРЭННІ

## 23-гадовая парадзіха загінула ў радзільні

МАЛАДЗЕЧНА

**Маладую жанчыну пахавалі на мінулым тыдні. Пра трагедыю чытачы паведамілі рэдакцыі ў сераду, 28 кастрычніка, на наступны дзень пасля выпадку.**

Маладая сям'я нядаўна спраўляла першыя ўгодкі вяселля. Маладзечанцы выказваюць словы спачування і падтрымкі сям'і жанчыны.

Галоўны доктар Маладзечанскай бальніцы **Таццяна Шамодзі** пацвердзіла факт гібелі і дадала:

– Не дай бог нікому апынуцца ў такой сітуацыі. Здарэнне каментаваць немагчыма, таму што яшчэ няма ніякіх заключэнняў. Учора цэлы дзень працавала камісія, і яшчэ будуць працаваць. Смерць жанчыны непрадбачаная, раптоўная. Сітуацыя не звязаная з цяжарнасцю і з родамі. Такое заключэнне на сёння. Ідзе разбіральніцтва. Сваякі ўжо звярнуліся да тых, хто павінны разбірацца.

Брат загінулай сказаў у гутарцы з "РГ": "Цяпер мы чакаем вынікаў экспертызы і вельмі спадзяёмся, што яны хоць нешта праясняць".

Паводле неафіцыйнай інфармацыі, жанчына нарадзіла здаровага хлопчыка.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

БЯСПЕКА

## У вёсцы Айцінава, што на Валожыншчыне, з-за шаленства аб'яўлены каранцін

ВАЛОЖЫН

**Каранцін будзе доўжыцца два месяцы.**

Пра гэта "Рэгіянальнай газеце" расказала ветэрынарны доктар-эпізаатолаг раённай ветэрынарнай станцыі Валожына **Наталля Барадака.**

– Для жыхароў вёскі Айцінава, у прынцыпе, нічога не зменіцца. Нашы спецыялісты ўжо вакцынавалі ўсіх катоў і сабак у гэтай вёсцы. Сельсавету даручана адстрэльваць жывёл, паводзіны якіх будуць падобныя на шаленства.

Каранцін у вёсцы абвясцілі з-за лісы, што завітала ў вёску. Яна счапілася з мясцовым сабакам, пакусала яго. Лісіцу застрэлілі і адправілі на экспертызу.

Гэта чацверты каранцін у раёне з пачатку года. У трох выпадках крыніцай шаленства былі лісы, у адным – маленькае ваўчаня.

**Наталля ТУР.**



Перад заменай кола, верагодна, не стравілі паветра.

Фота amsrus.ru.

ЗДАРЭННІ

# 20-гадовы работнік аўтапарка зламаў нагу пры рамонце МАЗа

МАЛАДЗЕЧНА

**Выпадак адбыўся 19 кастрычніка. Пра яго рэдакцыі паведамілі чытачы.**

Падрабязней пра гэта распавёў начальнік Маладзечанскага міжраённага аддзела Мінскага абласнога ўпраўлення Дэпартамента дзяржаўнай інспекцыі працы **Дзяніс Тамашоў**.

Пацярпеламу работніку аўтапарка №4 20 год. Яго лечаць у Бараўлянах. Накіраваць яго ў гэту бальніцу вырашылі на кансіліуме дактароў у Маладзечне.

Цяпер ідзе расследаванне здарэння, таму звесткі па ім толькі папярэднія.

Пацярпелы займаўся работамі па шынамантажы МАЗа. Канструкцыя аўтамабіля такая, што ззаду размешчаныя дзве восі. Заднія колы трымаюцца па прынцыпе спаркі – здвоеных колаў.

Работнік мяняў кола, паддамкраціўшы машыну. На адной са спарак зняў першае кола. А другое лопнула, стрэліўшы напорам проста ў нагу і перабіла яе.

У выніку ў маладога чалавека паламаныя дзве косткі нагі.

– Згодна з папярэдняй версіяй, з кола не стравілі паветра і пачалі яго здымаць, – тлумачыць Дзяніс Тамашоў. – У такой працы свая спецыфіка. Страўліваць паветра трэба было абавязкова. Мужчына стаяў, і паток ударыў у нагу. Страшна падумаць, што б было, калі б ён прысеў.

Расследаванне выпадку яшчэ вядзецца.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

ПАДЗЕЯ

# Як аб'ехаць "Дажынкі"

ВІЛЕЙКА

**У сувязі з падрыхтоўкай і правядзеннем фестывалю-кірмашу "Дажынкі-2015" перакрыюць некаторыя ўчасткі вуліц. Пра гэта папярэджвае Вілейскі РАУС.**

Ад 12 гадзін дня 12 лістапада да 23 гадзін 13 лістапада будуць перакрытыя вуліцы 17 Верасня і Партызанская, ад вуліцы 1 Мая да вуліцы Чырвонаармейская.

Рух транспарту прадугледжаны па вуліцах 1 Мая, Горкага, Чырвонаармейская.

Варта прадумаць, дзе паставіць аўтамабіль, і жыхарам дамоў па вуліцах 17 Верасня (№№ 37, 39, 41, 43, 44, 45, 46), Партызанская (№35, №42), Вадап'янава (№№ 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 11, 13, 15, 25, 27), Савецкая (№№ 1, 2, 3, 4, 5, 7), Набярэжная (№№ 13, 15), завулку Савецкі (№№ 2, 3). Ад 12 гадзін дня 12 лістапада рух транспарту да гэтых дамоў будзе абмежаваны. Ад 9 гадзін раніцы 13 лістапада і да завяршэння мерапрыемства пад'езд да іх будзе немагчымы.

Стаянкі каля "Дома быту" па вуліцы Ходзькі і каля СШ №5 ад 7 гадзін раніцы 13 лістапада будуць выкарыстоўвацца толькі для абслугоўвання мерапрыемстваў.

Вілейскі РАУС звяртае ўвагу, што на ўваходзе на масавае мерапрыемства правяраюць ручную кладзь і праводзяць асабісты дагляд.

Забараняецца праносіць з сабой спіртныя і слабаалкагольныя напоі, прахаладжальныя напоі ў шкляной, металічнай, пластыкавай непразрыстай тары аб'ёмам большым за літр, тэтрапакетах. Таксама зброю, выбуховыя прылады, выбуховыя і лёгкаўзгаральныя рэчывы, колюча-рэжучыя прадметы і тыя, што прызначаныя для нанясення цялесных пашкоджанняў, піратэхніку.

Для ўдзелу ў мерапрыемствах не будуць дапускаць нецвярозых.

Калі вы знайшлі падазроныя рэчы, пакінутыя без нагляду, інфармуйце Вілейскі РАУС па тэлефоне 102 альбо бліжэйшы нарад міліцыі.

**Аддзел інфармацыі.**

## Пакажуць эксклюзіўныя строі

ВІЛЕЙКА

У абласных "Дажынках" у Вілейцы 13 лістапада прымуць удзел больш за 500 чалавек.

Сярод іх каля 200 пераможцаў і прызёраў абласнога спаборніцтва на ўборцы ўраджаю і ў жывёлагадоўлі, госці. Пра гэта паведамілі ў камітэце па сельскай гаспадарцы і харчаванні Мінаблвыканкама.

Кожны раён вобласці прывязе на "Дажынкі" свой падворак. Там прадставяць прадукцыю прадпрыемстваў раёна, мясцовыя пачастункі, выступяць артысты.

На "Дажынках" пакажуць выставы каравая і рэтра-аўтамабіляў, пройдзе паказ эксклюзіўных строяў і іншае.

Ахвотныя змогуць паспрабаваць юшку, якую прыгатуюць прадстаўнікі рыбгасаў вобласці.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**







| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 29.10 | 5.11 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 17 358,00 | **17 413,00** |
| Еўра | 19 189,00 | **19 015,00** |
| Злоты | 4 488,29 | **4 476,93** |
| Расійскі рубель | 273,17 | **277,17** |
| Грыўня | 760,90 | **752,59** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 4.11** | | |
| Еўра | 19120/19350 | **18900/19240** |
| Долар ЗША | 17320/17500 | **17380/17480** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| **ПРАДУКТЫ** | 28.10 | 4.11 |
| | Цана руб. | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 159 900 | **159 900** |
| Сасіскі, 1 кг | 53 800 | **53 800** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 26 800 | **26 800** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 75 000 | **70 000** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 39 800 | **39 800** |
| Селядзец, 1 кг | 54 000 | **54 000** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 108 000 | **108 000** |
| Рыс, 0,9 кг | 13 500 | **13 500** |
| Грэчка, 0,8 кг | 16 500 | **17 000** |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | 13 000 | **13 000** |
| Алей "Дзіўны", 1 л | 23 500 | **23 500** |
| Маянэз, 200 г | 4 500 | **4 500** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 14 500 | **14 500** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 39 500 | **39 500** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 13 000 | **13 000** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 5 900 | **5 900** |
| Часнок, 1 кг | 47 900 | **47 900** |
| Капуста, 1 кг | 3 500 | **3 500** |
| Морква, 1 кг | 5 900 | **5 900** |
| Баклажаны, 1 кг | 18 900 | **16 900** |
| Лімоны, 1 кг | 29 900 | **29 900** |
| Апельсіны, 1 кг | 29 500 | **29 500** |
| Мандарыны, 1 кг | 34 900 | **34 500** |
| Грэйпфруты, 1 кг | 26 500 | **19 900** |
| Ківі, 1 кг | 26 500 | **26 500** |
| Буракі, 1 кг | 5 900 | **5 900** |
| Памідоры, 1 кг | 16 900 | **16 500** |
| Агуркі, 1 кг | 29 900 | **29 900** |
| Перац, 1 кг | 14 900 | **14 900** |
| Вінаград, 1 кг | 24 500 | **24 900** |
| Бананы, 1 кг | 19 900 | **19 900** |
| Кавун, 1 кг | 7 500 | **-** |
| Дыня ("тарпеда"), 1кг | 13 000 | **13 000** |
| Хурма, 1 кг | 29 900 | **29 900** |
| Памела, 1 кг | 34 900 | **34 900** |
| Яблыкі, 1 кг | 12 900 | **12 900** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 29 500 | **29 500** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 18 000 | **18 000** |
| Масла, 1 кг | 100 000 | **100 000** |
| Тварог, 1 кг | 55 000 | **55 000** |
| Бульба, 1 кг | 2 500 | **2 500** |
| Сала, 1 кг | 100 000 | **100 000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 25 000 | **25 000** |
| Мёд, 0,5 л | 60 000 | **60 000** |

● КРЫМІНАЛ

## Жанчыну збілі, але ў бальніцу і міліцыю яна не звярталася

МЯДЗЕЛ

**Удзень 28 кастрычніка шпіталізавалі 29-гадовую мядзяльчанку.**

У яе – закрытая чэрапна-мазгавая траўма, закрыты пералом рэбраў, страсенне мазгоў, іншыя траўмы. Як аказалася, гэтыя пашкоджанні яна атрымала яшчэ 23 кастрычніка. Падазраюць, што збіў яе 29-гадовы муж.

Адбылося гэта позна ўвечары падчас сваркі. Быў мужчына нападпітку. Жанчыне стала дрэнна, але яна не выклікала "хуткую дапамогу" і міліцыю. Патлумачыла, што і мужу казала не выклікаць, расказаў намеснік начальніка Мядзельскага райаддзела Следчага камітэта Беларусі **Міхаіл Сакалдынскі**.

Пяць дзён жанчына ляжала дома, думала, усё абыдзецца. Пакуль у кватэру не завітаў участковы інспектар міліцыі – справа ў тым, што мужчыну раней судзілі за крадзеж. Участковы ўбачыў, што жанчына збітая. Тая і расказала, як усё адбылося.

Мужчыну затрымалі. Узбудзілі крымінальную справу па факце прычынення цяжкіх цялесных пашкоджанняў.

**Аддзел інфармацыі.**

## У пенсіянеркі з дома скралі больш за 12 мільёнаў рублёў

ВІЛЕЙКА

**У міліцыю давялося звярнуцца 27 кастрычніка пенсіянерцы з вёскі Лоўцавічы.**

У яе з дома нехта скраў грошы: больш за 12 мільёнаў рублёў і 50 долараў ЗША. Адбылося гэта ў перыяд ад паўдня 26 кастрычніка да вечара 27 кастрычніка.

Узлому ні дзвярэй, ні вокнаў не было. Хтосьці, пэўна, скарыстаўся тым, што гаспадыня не замыкала дзверы, калі ўпраўлялася па гаспадарцы.

Узбудзілі крымінальную справу за крадзеж з пранікненнем у жыллё, распавёў начальнік Вілейскага райаддзела Следчага камітэта **Яўген Мягкоў**.

**Аддзел інфармацыі.**

● ТРАНСПАРТНАЯ МІЛІЦЫЯ

## У цягніку Мінск-Маладзечна знік скураны партфель

МАЛАДЗЕЧНА

**У ім была пячатка доктара.**

З 23 на 24 кастрычніка ў цягніку эканом-класа рэгіянальных ліній Мінск-Маладзечна пры невядомых абставінах знік скураны партфель светла-карычневага колеру з бакавымі кішэнямі.

У ім знаходзіліся асабістая пячатка доктара з металу чорнага колеру на імя Аўдзіевіч А. А., банкаўская картка "Белінвестбанка", бумажнік карычневага колеру, звязка ключоў.

Калі вы знайшлі рэчы, патэлефануйце па нумарах: **(8029) 7796332, (8029) 1406439**.

**Паводле Маладзечанскага аддзела ўнутраных спраў на транспарце.**

● СЛЕДЧЫ КАМІТЭТ

## Угнаў машыну, трапіў у аварыю і цудам выжыў

ВАЛОЖЫН

**Здарэнне адбылося ў суботу, 5 верасня, каля 16 гадзін.**

У вёсцы Ткачы двое малазнаёмых мужчын выпівалі. Гаспадар машыны заснуў. А другі забраў у спячага ключы ад аўто.

На машыне "Форд-Мандэа", паводле версіі следства, ён паехаў у Ракаў. На дарозе не справіўся з кіраваннем і трапіў у аварыю. Машыну аднавіць немагчыма. Мужчына цудам выжыў.

Абвінавачанаму ва ўгоне пагражае да пяці год пазбаўлення свабоды і штраф на 55 мільёнаў рублёў. Следства закончанае, справу перадалі ў суд.

**Аксана САГАДЗІН, следчая Валожынскага Следчага камітэта.**



Фота d-md.com.

Нападнікам стаў госць, з якім пацярпелыя дагэтуль выпівалі.

● КРЫМІНАЛ

# Гвалтам забраў завушніцы ў жанчыны, каб падарыць іх другой

СМАРГОНЬ

**Супрацоўнікамі крымінальнага вышуку Гродзенскай і Смаргонскай міліцыі раскрыты дзёрзкі разбой, здзейснены ў дачыненні да мужа і жонкі з Расіі, якія знаходзіліся ў службовай камандзіроўцы на тэрыторыі нашай краіны.**

Муж з жонкай 1965 і 1971 гадоў нараджэння займаюцца рамонтам рэфрыжэратараў і ў замежных паездках жылі ў вагоне, на які і напалі падазраваныя.

Вагон стаяў у тупіку каля вёскі Залессе Смаргонскага раёна. Аказалася, што ў гэтым жа вагончыку жыла сяброўка аднаго з падазраваных, а з пацярпелымі ён пазнаёміўся яшчэ летась.

Убачыўшы, што яны зноў тут, мужчына зайшоў у госці, дзе ўсе разам выпілі.

Пасля гэтага госця праводзілі на цягнік, аднак да свайго прыпынку ён не даехаў.

Па дарозе мужчына вырашыў абрабаваць тых, з кім толькі што піў. Празнейкі час ён вярнуўся да вагона разам з прыяцелем і, надзеўшы маскі, нападнікі ўварваліся ўнутр.

Падазраваны адразу ж некалькі разоў ударыў драўляным табурэтам і кубкам мужчыну па галаве, з-за чаго той страціў прытомнасць.

Дасталася і яго жонцы. Жанчыне некалькі разоў стукнулі ў твар і пад пагрозай далейшага прымянення гвалту вымусілі аддаць залатыя завушніцы, ланцужок і ноўтбук.

Каб зламыснікі больш не чапалі мужа, жонка прапанавала ім малдаўскія леі, але нападнікі гэтымі замежнымі грашыма не зацікавіліся – палічылі "неліквіднымі".

Здзейсніўшы разбой, злачынцы зніклі. Той мужчына, чыя сяброўка жыве ў Залессі, падарыў ёй скрадзеныя залатыя завушніцы. Ланцужок прадалі, а месцазнаходжанне ноўтбука ўстанаўліваецца.

**Ігар БЕЛАЗЁРАЎ, упраўленне ўнутраных спраў Гродзенскага аблвыканкама.**

● ТРАНСПАРТ

## Можна далучыцца да добраахвотных дружын на транспарце

МАЛАДЗЕЧНА

**На тэрыторыі абслугоўвання Маладзечанскага аддзела ўнутраных спраў на транспарце дзейнічаюць пяць добраахвотных дружын.**

Яны складаюцца з работнікаў прадпрыемстваў і арганізацый УП "Мінскае аддзяленне Беларускай чыгункі", такіх, як дыстанцыя сігналізацыі і сувязі, рэфрыжэратарнае вагоннае дэпо Маладзечна, дыстанцыя пуці, лакаматыўнае дэпо, станцыя Маладзечна.

У складзе добраахвотнай дружыны 34 работнікі прадпрыемстваў і арганізацый аддзялення пуці. Акрамя таго, дзейнічаюць пяць саветаў прафілактыкі ў працоўных калектывах.

Добраахвотная дружына забяспечвае грамадскі парадак, бяспеку грамадзян на станцыях, вакзалах і цягніках, папярэджвае правапарушэнні, якія пагражаюць бяспечнаму руху цягнікоў, забяспечвае пажарную бяспеку і ахову навакольнага асяроддзя.

Членамі добраахвотнай дружыны могуць быць грамадзяне Рэспублікі Беларусь, якім споўнілася 18 гадоў і якія па стане здароўя, дзелавых і маральных якасцях могуць удзельнічаць у ахове правапарадку.

Не могуць быць членамі добраахвотнай дружыны грамадзяне, якія маюць судзімасць, стаяць на ўліку ў лячэбна-прафілактычных арганізацыях па псіхічных захворваннях, наркаманіі альбо алкагалізму, прызнаныя рашэннем суда недзеяздольнымі альбо абмежавана дзеяздольнымі, якія на працягу года прыцягваліся да адміністрацыйнай адказнасці.

**Паводле Маладзечанскага аддзялення ўнутраных спраў на транспарце.**

# Мэбля –
## не адзенне, якое панасіў і выкінуў

**Парады спецыяліста, якія дапамогуць з выбарам.**

Важная дэталь любога інтэр'ера – мэбля. Ад таго, як яна будзе выглядаць, залежыць не толькі знешні выгляд пакоя, але і ваш настрой, светаўспрыманне.

– Да выбару мэблі падыходзьце практычна, не ганіцеся за модай, – раіць спецыяліст па вытворчасці мэблі на заказ **Аляксандр Цярэшка**. – Галоўнае, каб вам было ўтульна і камфортна. Тым больш, не ўсё моднае можа ўпісацца ў інтэр'ер, памеры пакоя. Мэбля – не адзенне, якое панасіў, надакучыла – выкінуў. Таму першапачаткова паглядзіце прыклады ў інтэрнэце, схадзіце ў крамы, парайцеся са спецыялістамі.

Падчас выбару найперш задайце сабе пытанне, як доўга вы будзеце карыстацца ёй.

– Ёсць некалькі мадэляў паводзінаў людзей, калі яны выбіраюць мэблю, – расказвае спецыяліст. – Да першай можна аднесці людзей, якім яна хутка надакучвае. У большасці выпадкаў такія людзі выбіраюць недарагі, але прыгожы варыянт, праз тры-чатыры гады мяняюць мэблю. Іншыя хочуць доўга карыстацца мэбляй, але з часам змяняць нешта ў ёй. У такім выпадку раім паставіць надзейныя каркасы, а фасады з часам памяняць. Гэта танней, чым мяняць усю мэблю. Некаторыя ставяць мэблю адзін раз і амаль на ўсё жыццё.

Мэбля ў першую чаргу павінна быць практычнай, а ўжо пасля прыгожай, асабліва для кухні. Прыгожая мэбля можа быць дадаткам да незвычайнага інтэр'ера, упрыгожваннем пакоя. Аднак, калі яна цалкам не выконвае свае функцыі, напрыклад, вам не хапае месца, каб пакласці рэчы, хутка яна пачне вас раздражняць. Аб'ядноўвайце практычнае і прыгожае.

### Як зрабіць мэблю больш таннай

– Запомніце правіла – чым працей, тым танней, – тлумачыць спецыяліст. – Лепш купіць адну шафу шырынёй 80 сантыметраў, чым дзве па 40. Тумба з дзвярамі, якія адкрываюцца, будзе больш эканамічнай, чым з шуфлядкамі. Для дзвярэй ідзе менш крапежных элементаў, чым для шуфлядак.

Шафы з шклянымі дзвярамі даражэйшыя за шафы з глухімі фасадамі. Калі вы не хочаце адмаўляцца ад вытанчаных вітражоў, зэканомце на петлях, фурнітуры. Кошт фурнітуры 20-30% ад агульнай цаны мэблі.

Улічыце, як будзеце даглядаць за фасадам. Пыл, сляды ад пальцаў на глянцавым адразу кінуцца ў вочы. Матавыя не патрабуюць асаблівага догляду. Яны бываюць з пластыку, плёнкі, фарбы.

– Некаторыя ўпэўненыя, што плёначныя фасады дрэнныя, – дзеліцца досведам вытворца мэблі. – Гэта не зусім так, усё залежыць ад таго, якая гэта мэбля і для якога пакоя. Калі шафа з няякаснай плёнкі стаіць каля газавай пліты, верагодней за ўсё, яна пачне з часам адклейвацца. Лепш пераплаціць, чым купіць няякасную.



Фота mebel-svm.com.ua

Закрытыя дзверцы замяніце адкрытымі паліцамі.

– Масіў драўніны – самы дарагі матэрыял, – расказвае спецыяліст. – Але дрэва – дастаткова капрызнае і праслужыць доўга пры пастаянным доглядзе і беражлівых адносінах. Наступны па цане – МДФ (пліта, абклееная плёнкай з ПВХ альбо фарбаваная). Па функцыянальных характарыстыках яна лепшая за масіў, не патрабуе асаблівага догляду. Самы эканамічны варыянт – мэбля з ламініраванага ДСП.

Зэканоміць можна і на акантоўцы. Самая танная – з меламіну, у аснове якога папера. Не выбірайце яе для вільготных памяшканняў – разлезецца, і ў дзіцячым пакоі – хутка падрапаецца. Аптымальны варыянт – акантоўка з ПВХ.

– Выбіраеце сталешніцу, звярніце ўвагу на таўшчыню – 28 ці 38 міліметраў. Першыя не ўстойлівыя да вільгаці, аднак таннейшыя за іншыя. Калі хочаце, каб мэбля служыла доўга, выбірайце таўшчынёй 38 міліметраў.

Мэбля будзе танней там, дзе ўказана "уласная вытворчасць", "ад вытворцы".

### Мэбля візуальна выраўняе сцены

У месцах, дзе будзе стаяць мэбля, можна не рабіць сцены ідэальна роўнымі, тым больш, што гэта практычна немагчыма зрабіць. Спецыяліст, які робіць мэблю ўласнай вытворчасці, заўсёды можа знайсці выйсце, як зрабіць, каб сцены здаваліся больш роўнымі.

Мэбля з гарызантальнымі фасадамі візуальна павялічыць вузкія альбо маленькія памяшканні. Вертыкальная – зрокава робяць памяшканні больш высокімі.

– Не падбірайце мэблю пад колер дзвярэй і падлогі,– раіць Аляксандр. – Вертыкальныя элементы падбірайце пад вертыкальныя, гарызантальныя пад гарызантальныя.

### Як падабраць колер мэблі?

У вялікім пакоі можна выкарыстаць мэблю кантрасных колераў. Гэта дасць адчуванне аб'ёму, гульню святу і ценяў. У маленькіх такая мэбля здасца вялізнай.

У пакоях з паўночнага боку выбірайце светлую мэблю. Цёмная будзе яшчэ больш цёмнай.

**Ці заўсёды ўстаноўка бясплатная?**

– У большасці выпадкаў зборка ўключаная ў цану і складае 8-12%, – расказвае спецыяліст. – Некаторыя вытворцы прапануюць такую паслугу асобна. Пакупнікі думаюць, што гэта яшчэ адзін спосаб зрабіць пакупку больш таннай. Але калі вы збіраеце мэблю самі, гарантыя распаўсюджваецца толькі на зборныя адзінкі (бакавая сценка, дно корпуса, сталешніца). Калі ўзнікнуць дэфекты па прычыне няправільнай зборкі, іх прыйдзецца выпраўляць самастойна.



Галіна СІНІЦА
8793850
@gmail.com
Skype: sinica-galina92

## Некарэктныя пытанні да мэбельшчыкаў

### Што вы мне параіце?

– У кожнага чалавека свой густ, светаадчуванне. І яно можа адрознівацца ад меркавання спецыяліста. Таму варта ўяўляць, як будзе выглядаць ваша мэбля, паглядзець мадэлі ў інтэрнэце. Каб зэканоміць час на пошук дызайну да таго, як вы сустрэнецеся са спецыялістам.

### Чаму так дарага?

– Ручная работа заўсёды даражэйшая, чым фабрычная. Кожную дэталь спецыяліст вырабляе асобна. Калі нешта не падабаецца – можна папрасіць перарабіць. Мэблю ўласнай вытворчасці рэдка аддаюць без устаноўкі. За ўстаноўку і дастаўку мэблі з магазіна вы заплаціце асобна. Канчатковая цана будзе прыкладна аднолькавай са зробленай на заказ.

### Колькі каштуе метр пагонны?

– Метр пагонны ўмоўная адзінка, якая паказвае кошт аднаго метра самай простай мэблі і як вынік самай таннай камплектацыі, – расказвае Аляксандр. – Як правіла, за абазначаную кансультантам цану можаце набыць гарнітур, які складаецца з тумбачак, шафаў з глухімі фасадамі. Сценавыя панэлі, плінтусы, цокалі і ручкі ў цану пагоннага метра пераважна не ўваходзяць.

Вытворцы забываюцца і на сталешніцу. У выніку канчатковы варыянт цаны істотна адрозніваецца ад першапачатковага.

Цана кухоннай мэблі разлічваецца толькі паэлементна за выключэннем сталешніц, карнізаў і цокаля. Іх мераюць па квадратных альбо пагонных метрах.

**Галіна СІНІЦА.**



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Паэзія прыўносіць светлыя адценні ў жыццё віляйчанкі Людмілы Пукелы.

● ТВОРЧАСЦЬ

## Што дапаможа жыць і не бачыць бруду? Паэзія, лічыць віляйчанка

ВІЛЕЙКА, АШМЯНЫ

**Людміла Пукела (Фёдарава) з Вілейкі не лічыць сябе паэткай. Кажа, што вершы ў яе атрымліваюцца вельмі простыя, але яны ідуць ад душы. Ужо і песні з'явіліся на яе творы.**

Актыўна яна стала пісаць вершы на пенсіі, хоць яшчэ ў школе звалі Паэткай.

### "Акунулася з галавой у творчасць"

Нарадзілася і жыла Людміла ў Ашмянах. У школе любімымі прадметамі была руская мова і літаратура. Пісала прозу і вершы. Удзельнічала ў літаратурным аб'яднанні мясцовай газеты, была пазаштатным карэспандэнтам. За публікацыі дасылалі ганарары.

– Якраз былі грошы на кішэнныя расходы, – успамінае.

Потым Людміла скончыла філалагічны факультэт Гродзенскага дзяржуніверсітэта. Працавала настаўніцай рускай мовы і літаратуры на Ашмяншчыне.

Калі сям'я пераехала ў Вілейку, працавала ў Мардасоўскай школе, выхавальніцай у садках уВілейцы, у Нарочкай школе. Цяпер на пенсіі, але яшчэ працуе ў садку на вахце.

Доўгі час Людміла Пукела вершаў не пісала. А год таму, кажа, "акунулася з галавой у творчасць".

– Больш востра стала адчуваць у такім узросце прыгажосць і радасць жыцця, – тлумачыць. – Іду на працу – радкі рыфмуюцца. Іду з працы – зноўку спынюся, раблю накіды ў блакноце. І ва ўсім бачу паэзію. Сама здзіўляюся, наколькі багаты стаў мой унутраны свет. Па-іншаму на жыццё стала глядзець.

Цэлую папку вершаў жанчына напісала за год. Нараджаюцца ў яе вершы пераважна на рускай мове. Па-беларуску таксама ёсць, і жанчына будзе працягваць пісаць на роднай мове. Піша пра міласэрнасць, чысціню, пазітыў, любоў, дабрыню. Вось урывак з верша "Пра дабрыню":

*"Жыццёвы шлях цяжкі, вядома.*
*На ім памылкі робяць нездарма.*
*Патрэбна родных паважаць, знаёмых,*
*Не шкадаваць для іх сардэчнага цяпла".*

### Бачыць паэзію ў штодзённым

Людміла Антонаўна стараецца быць на пазітыўнай хвалі, і паэзія ў гэтым дапамагае. Стараецца бачыць паэзію ў штодзённым жыцці:

– Сёння дождж, і пра яго верш нарадзіўся. Лісток упаў з дрэва – ужо нейкая паэтычнасць паўстала. Убачыла засохлую кветачку – такое заміланне! І нарадзіўся верш.

**– Што дае захапленне паэзіяй?**

– Мне нашмат лягчэй жыць стала, я стараюся не заўважаць цёмнага, бруднага. Паэзія прыўносіць у жыццё светлыя адценні. Штосьці цяжка рабіць – адразу нараджаецца верш у галаве, і мне становіцца лягчэй.

### Стварылі песні на яе вершы

На яе вершы песні ўжо ствараюць. Да двух напісаў музыку віляйчанін **Анатоль Додрыкаў**. Выступала жанчына з вершамі на рэгіянальным фестывалі творчасці пажылых людзей у Вілейцы. Яе творы друкавалі ў часопісе "Я на пенсіі", а ў газеце "Друг пенсионера" – апавяданні. Марыць выдаць зборнік. Вельмі хочацца пакінуць такую памяць пра сябе ўнучцы.

Алесь ВЫСОЦКІ.



На здымках фільма "Яны". Фота Наталлі АДАМСАВАЙ.

● КІНАМАСТАЦТВА

# З'явіўся трэйлер фільма "Яны"

## Здымала яго на Вілейшчыне 17-гадовая рэжысёрка

ВІЛЕЙКА

**Поўнаметражны фільм каманда энтузіястаў здымала ў жніўні. І пераважна – на Вілейшчыне: на Вілейскім вадасховішчы, Віліі і каля Вілейкі.**

Фільм "Яны" – гэта гісторыя пра звычайных падлеткаў, якія хацелі павесяліцца, але апынуліся там, адкуль няма выйсця.

Па сюжэце – сучасныя падлеткі пайшлі ў паход і трапілі ў неіснуючы лес – галаграму. Там яны сутыкаюцца з сапраўднымі цяжкасцямі: ваўкі, жыццё на выжыванне. Пераносяць холад і голад, зведваюць здраду і страх, пераадольваюць выпрабаванні, даведваюцца, што такое сапраўднае сяброўства і каханне.

**"Лес не такі, якім здаецца спачатку", – зааблівають стваральнікі фільма.**

– Цяпер ідзе мантаж, пасля Новага года будзем працаваць над агучкай. Працуем на ўсю моц, – расказала 17-гадовая рэжысёрка фільма **Дыяна Цыкунова** з Мінска.

**– Чым для вас сталі здымкі на Вілейшчыне?**

– Засталіся толькі прыемныя ўспаміны. Мы часта збіраемся і прыгадваем здымкі. Хочам хутчэй зноў вярнуцца ў Вілейку.

**– Дык, можа, і працяг фільма будзе...**

– Паглядзім, як пойдуць справы.

Праект – некамерцыйны. Над ім і юныя, і дарослыя працуюць за ідэю.

Паглядзець трэйлер можна на нашым сайце rh.by. Прэм'еру фільма плануюць на 2016 год.

Алесь ВЫСОЦКІ.

**Даведка "РГ".** **Трэйлер** – невялікі відэаролік, які складаецца з кароткіх і звычайна найбольш відовішчных фрагментаў фільма. Трэйлер выкарыстоўваецца для анансавання або рэкламы фільма.

● ПАМЯЦЬ

# Новыя помнікі і памятныя знакі пабачылі ўдзельнікі аўтапрабегу

ВІЛЕЙКА

**На Вілейшчыне 31 кастрычніка прайшоў традыцыйны аўтапрабег па памятных мясцінах і месцах пахавання салдат Першай сусветнай. Адбываўся ён у шосты раз.**

Удзельнічалі ў аўтапрабегу жыхары Вілейшчыны, Мінска, Смаргоні і іншых гарадоў. Была і моладзь: школьнікі і навучэнцы вілейскага каледжа. У форме салдат і афіцэраў той вайны прыехалі рэканструктары з ваенна-гістарычных клубаў Брэста, Гомеля, Мінска.

Пачаўся аўтапрабег з наведвання брамы-капліцы на гарадскіх могілках па вуліцы 1 Мая ў Вілейцы, якую адкрылі ў верасні.

Асаблівасць сёлетняга аўтапрабегу і была ў тым, што ён прайшоў па мясцінах, дзе ўстанавілі новыя помнікі і памятныя знакі на магілах воінаў. Пабывалі ўдзельнікі ў вёсках Любкі, Дварэц і Іжа Іжанскага сельсавета.

– Частку магіл на тэрыторыі гэтага сельсавета даследаваў пошукавы батальён. Якраз да гэтага аўтапрабегу намаганнямі фонду "Памяці Першай сусветнай вайны "Крокі" іх добраўпарадкавалі, устанавілі памятныя пліты з прозвішчамі, крыжы, – расказвае дырэктар Вілейскага краязнаўчага музея **Сяргей Ганчар**.

На кожным з памятных месцаў адслужыў літыю благачынны цэркваў Вілейскай акругі протаіерэй **Аляксандр Шмырко**. Аддалі воінскую павагу загінулым, усклалі кветкі і гірлянды.

**Барыс Цітовіч** расказаў пра гісторыю пошукаў і добраўпарадкавання гэтых месцаў. **Валянціна Цітовіч** дэкламавала вершаваныя радкі паэтаў-удзельнікаў Першай сусветнай.

Таксама наведалі лазарэтныя могілкі 29 пяхотнай дывізіі каля вёскі Заброддзе, мемарыяльныя комплексы каля Рускага Сяла і ў Заброддзі. Па традыцыі завяршыўся аўтапрабег сяброўскай гарбатай.

Штогод аўтапрабег праводзяць напярэдадні Дня прымірэння і памяці ахвяр Першай сусветнай. Арганізоўвае яго фонд "Памяці Першай сусветнай вайны "Крокі" па ініцыятыве Барыса Цітовіча.

Алесь ВЫСОЦКІ.

**Даведка "РГ".** **Літыя** – кароткае малітоўнае памінанне памерлых.

● ЗДАРЭННІ

# Будуць судзіць кіроўцу, які наехаў на 12-гадовую і ўцёк

МАЛАДЗЕЧНА

**Расследаванне крымінальнай справы скончылі.**

"РГ" паведамляла, што здарэнне адбылося ў Маладзечне 4 ліпеня на завулку Асіпенкі. Па дарозе ішлі дзяўчынка разам з братам. Кіроўца на аўтамабілі "Фіят-Тэмпра" выехаў за межы праезнай часткі і наехаў на школьніцу.

У выніку 12-гадовая дзяўчынка атрымала цяжкія пашкоджанні, трапіла ў рэанімацыю. 10-гадовы хлопчык моцна спалохаўся і збіў калені.

## Следчыя: кіроўца быў нецвярозы

Кіроўца ўцёк з месца здарэння. 54-гадовага жыхара Чысці затрымалі на наступны дзень.

Следчыя ўстанавілі, што кіроўца праявіў злачынную нядбайнасць і няўважлівасць. Мужчына адцягнуў увагу ад кіравання машынай: адкрываў люк аўтамабіля. Ён не прыняў своечасовых мер да зніжэння хуткасці, расказала афіцыйны прадстаўнік упраўлення Следчага камітэта па Мінскай вобласці **Таццяна Беланог**.

Следчы эксперымент паказаў, што кіроўца меў магчымасць бачыць юных пешаходаў. Мужчына знаходзіўся за рулём у нецвярозым стане.

З яго слоў, ён выпіў піва.

**Да таго ж, мужчына не аказаў неадкладную дапамогу дзіцяці і не выклікаў "хуткую дапамогу" і ДАІ.**

Ён уцёк з месца здарэння і пакінуў дзяўчынку ў небяспечным для жыцця стане.

Падследнага заключылі пад варту. Крымінальную справу перадалі ў пракуратуру для накіравання ў суд.

**Аддзел інфармацыі.**



Фота fishki.net.

На фота каля дарогі макет дзяўчынкі, якая збіраецца пераходзіць вуліцу, – для пільнасці кіроўцаў.

● НАВІНЫ

## "Зялёная карта" шукае валанцёраў

Інтэрнэт-праект "Зялёная карта", які бярэ пачатак ад 2012 года, стане агульнабеларускім: цяпер на карту нанясуць усе гарады краіны. Для дапамогі ў гэтым Цэнтр экалагічных рашэнняў шукае валанцёраў з розных раёнаў.

Сярод гарадоў нашага рэгіёна на "Зялёнай карце" ёсць толькі Маладзечна.

"Зялёная карта" ўтрымлівае інфармацыю пра пункты прыёму рэсурсаў (шкло, папера, пластык, метал), небяспечных адходаў (лямпы і тэрмометры, батарэйкі і акумулятары, аўтаадходы, а таксама электрычнага і электроннага абсталявання), месцы прыёму рэчаў для паўторнага выкарыстання (кнігі, адзенне, мэбля, бытавая тэхніка).

Арганізатары плануюць дапоўніць карту яшчэ трыма слаямі: экалагічная інфармацыя і арганізацыі, аднаўляльная энергетыка, прыродныя тэрыторыі, паведамляе Цэнтр экалагічных рашэнняў.

Каб далучыцца і стаць валанцёрам, трэба да 1 снежня звязацца з каардынатарам па тэлефонах **(+37517) 334-18-15, (+37529) 559-61-19**, ці па электроннай пошце greenmap @ecoidea. by.

Знайсці карту можна па адрасе: greenmap.by.

**Аддзел інфармацыі.**

## "Дзяды" вілейскага мастака паказваюць у Глыбокім

ВІЛЕЙКА

У выставачнай зале гарадскога цэнтра культуры Глыбокага 30 кастрычніка адкрылася выстава мастака з Вілейкі **Эдуарда Мацюшонка** "Дзяды".

На ёй дэманструюць не толькі працы, якія творца паказваў год таму на выставе ў Вілейцы. Спецыяльна да гэтай выставы Эдуард Мацюшонак стварыў новыя мастацкія творы.

Апроч знаёмства з творчасцю мастака, наведнікі маглі запаліць свечку і распавесці пра сваіх продкаў.

На адкрыцці выставы творцу ўручыў Ганаровую грамату старшыня Глыбоцкага райвыканкама **Алег Морхат**, расказаў дырэктар Вілейскага краязнаўчага музея **Сяргей Ганчар**.

Эдуард Мацюшонак – ураджэнец Глыбоччыны. Ён нарадзіўся ў вёсцы Мнюта-2. І з выставай у Глыбокае прыязджае не ўпершыню.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Забілі 49-гадовага мужчыну без пэўнага месца жыхарства

МАЛАДЗЕЧНА

Забойства адбылося 30 кастрычніка ў адным з закінутых дамоў паблізу плошчы Старое Места.

Мужчыну без пэўнага месца жыхарства забіў драўлянай палкай 47-гадовы жыхар Барысава.

– Ён таксама без пэўнага месца жыхарства. Зарэгістраваны ў Барысаве, аднак працягліы тэрмін бамжаваў у Маладзечне, – расказаў "Рэгіянальнай газеце" следчы Маладзечанскага РАСК **Юры Багушэвіч**.

Канфлікт паміж мужчынамі ўзнік на глебе агульнай непрыязнасці. Ад атрыманых траўмаў (чэрапна-мазгавая траўма, перамлом касцей чэрапа, кровазліццё) мужчына памёр.

Узбуджаная крымінальная справа па артыкуле 147 Крымінальнага кодэкса Беларусі.

## Каля калгаснага рынку збілі жанчыну-пешахода

МАЛАДЗЕЧНА

Здарэнне адбылося ў сераду, 28 кастрычніка, каля трох гадзін дня.

23-гадовы кіроўца рухаўся на машыне "Лексус" па вуліцы Багдана Хмяльніцкага з боку вуліцы Валынца.

Каля дома №10 наехаў на 75-гадовую пенсіянерку, якая пераходзіла вуліцу не па пешаходным пераходзе.

У выніку здарэння жанчына з цялеснымі пашкоджаннямі, чэрапна-мазгавой траўмай была дастаўленая ў хірургічнае аддзяленне маладзечанскай бальніцы.

Па факце здарэння праводзіцца праверка.

Пра гэта "Рэгіянальнай газеце" расказаў дзяржаўтаінспектар **Сяргей Бартош**.

**Наталля ТУР.**

● СТАРЫ АЛЬБОМ

# Як у Першую сусветную на Мядзельшчыне расправіліся над казакамі

МЯДЗЕЛ

**У гэтым дакуменце расказваецца пра расправу германцаў над казакамі ў вёсцы Гулі (цяпер Мядзельскі раён). Адбылося гэта пры заключным этапе ліквідацыі Свенцянскага прарыву.**

Баі ля вёскі прыгадваліся ў "Армейскім весніку", які выдаваўся пры Штабе Галоўнакамандуючага войскамі Паўднёва-Заходняга фронту ад 20 верасня 1915 года:

"...З боем намі было ўзята м. Дунілавічы, на паўночны ўсход ад возера Мядзіол. Сапернік быў выбіты таксама і з в.Ажуны (раён м. Дунілавічы) і ст. Медзіола ў раёне в. Гулі".

Слядоў пахаванняў казакоў не засталося.

"16 верасня 1915 года, падчас наступлення часцей 30 і 32 Данскіх казацкіх палкоў у пешым страі на вёску Гулю Вілейскага павета, занятую германскімі коннымі егерамі, паранілі ружэйнай куляй у левую руку прапаршчыка 30 Данскога палка **Мікалая Іванавіча Пратапопава**. Суправаджоны казаком, ён накіраваў першапачаткова на палкавы перавязачны пункт, які знаходзіўся за дзве вярсты ад вёскі, але затым застаўся ў вёсцы, паслаўшы свайго казака за канём. Пад націскам перавышаючых сіл непрыяцеля названыя казацкія часці вымушаны былі адступіць, і германцы зноў занялі вёску, у якой захапілі ў палон параненых казакоў.

Раніцай 17 верасня 1915 года германцы зноў пакінулі вёску і казацкія раз'езды, якія ўступілі ўслед, знайшлі яшчэ цёплыя трупы казакоў, якія трапілі напярэдадні ў палон да германцаў.

Труп Пратапопава аказаўся ў адной бялізне і ў яго, акрамя названай агнястрэльнай перавязанай раны рукі, мелася другая, штыкавая, рана на грудзях. Па словах мясцовых жыхароў, германцы, захапіўшы Пратапопава ў палон і перавязаўшы яму рану, распранулі яго і забралі ўсё, што было, пасля чаго яго забіў адзін з непрыяцельскіх салдат.

Далей на дарозе каля вёскі быў знойдзены, таксама з перавязанай ранай, труп казака 32 палка **Кудраўцава**, якому ворагі перарэзалі горла. Затым у адной з хат на краі вёскі і за адным з двароў былі знойдзеныя трупы: казака 30 палка і ўрадніка 32 палка **Глушыхіна**. Па аповедзе адной сялянкі, Глушыхін напярэдадні прабег па вёсцы і схаваўся ў суседняй хаце, а раніцай 17 верасня з гэтай хаты выйшаў германскі салдат з акрываўленымі рукамі і папрасіў у яе вады вымыць рукі.



Фота забяспечана Маратам ХАЙРУЛІНЫМ.

Раз'езд казакоў каля Маладзечна. Верасень 1915 года.

**По сведчанні іншых жыхароў, яны былі сведкамі таго, як раніцай 17 верасня перад сыходам з вёскі германцы прыкалолі і прырэзалі некаторых параненых казакоў.**

Усяго ў вёсцы знайшлі 10 трупаў казакоў і два трупы прапаршчыкаў 30 Данскога казацкага палка, згаданага вышэй Пратапопава і **Георгія Канстанцінавіча Карнеева**. У апошняга аказаліся дзве раны. На трупах іншых казакоў меліся нароўні з агнястрэльнымі перавязанымі ранамі і больш свежыя, нажавыя, на грудзях і, нанесеныя ўдарамі тупой прылады, на галаве.

Твары чатырох казакоў былі знявечаныя да такой ступені, што апазнаць іх было немагчыма. Акрамя паказанняў жыхароў, кожны, хто бачыў трупы казакоў (па выглядзе ран) прыйшлі да высновы, што параненыя казакі былі забітыя ў той час, калі знаходзіліся ў ляжачым становішчы".

Паводле "Нашы ворагі: Агляд дзеянняў Надзвычайнай следчай камісіі. – Т.2: з 1 студзеня па 1 ліпеня 1916 г." – Петраград, 1916

Падрыхтаваў Вадзім ПРАЎРАЦКІ, вёска Нарач (Кабыльнік).

**Даведка "РГ".** Падобная расправа над двума казакамі адбылася ў верасні 1915 года ў вёсцы Ручыца на Вілейшчыне. Там сёлета, праз сто год, побач з Успенскай царквой адкрылі памятную пліту на магіле казакоў-пакутнікаў – **Мікіты Спіглазава і Мікалая Бедрына.**

● УСПАМІНЫ

## Сядзелі ў адным кабінеце і не ведалі, што браты

**Які цесны гэты свет: можна сядзець у адным кабінеце і не ведаць, што твой калега – брат у другой стрэчы.**

У час маёй працы ў лабараторыі надзейнасці ў Гродне са мной адбыўся выпадак, які яскрава паказвае, чаму варта ведаць продкаў.

Калектыў лабараторыі быў невялічкі, чалавек пяць. Уваходзілі мы то ў склад аддзела галоўнага канструктара, то ў склад аддзела тэхнічнага кантролю. Але свае службовыя абавязкі стараліся выконваць. Хаця было і не так проста – час перабудовы. І нават ў такім нашым калектыве не абыходзілася без спрэчак.

Аднойчы і я аказаўся ўцягнутым у спрэчку, толькі на моўную тэму. Прычым спрачаўся я з самым аўтарытэтным нашым супрацоўнікам – былым галоўным інжынерам прадпрыемства. Ён па стане здароўя на той час працаваў у нашай лабараторыі вядучым інжынерам.

Аднойчы ён паведаміў, што ў іх на выхадныя былі госці з Мінска – пляменніца жонкі з мужам. Абое беларускамоўныя літаратары. І дадаў, што каму патрэбная іх мова, хто іх будзе чытаць.

Я перапытаў прозвішчы гасцей. Аказалася, што і я нешта чытаў з напісанага імі. І яно мне спадабалася. Тады я выступіў у абарону пачынаючых літаратараў і іх мовы. Цяпер тая абарона выглядае нават смешна. Бо літаратары сталі вядомымі ў краіне сваімі творамі.

Я нагадаў нашаму супрацоўніку пра "Маладняк" і "Узвышша". Пра падстрэленыя на ўзлёце маладыя таленты. Пра значнасць мовы для дзяржаўнасці. І, магчыма, у спрэчцы з калегам недзе перагнуў палку, бо чалавек жа меў праблемы са здароўем. Ды і лёс яго быў не такім ужо лёгкім.

Карэнны мінчанін, рос без бацькі, бо той загінуў у вайну. Завочна скончыў інстытут. На некалькі год быў адпраўлены ў камандзіроўку ў Лондан. Займаўся рамонтам пераносных радыёпрыёмнікаў "Акіян". У Англіі было прадстаўніцтва фірмы. Пасля вяртання быў прызначаны галоўным інжынерам на адно з прадпрыемстваў у Гродне.

Аднойчы яго жонка паехала на машыне за клубніцамі ў Друскенікі. На зваротным шляху на крутым павароце клубніцы, што былі ў кабіне, рассыпаліся. Гэтым адцягнулі ўвагу кіроўцы. Не справілася з кіраваннем, машына перакулілася, і жанчына загінула. Засталася маленькая дачка.

### Працяг гісторыі

Мая бабуля Дамініка была родам з вёскі Даўжаны каля Заслаўя. У яе былі чатыры сястры і адзін брат. Адна з сясцёр жыла ў Лашанах. Яе дачка выйшла замуж за мінчаніна. Бабуля назвала яго прозвішча. І тое, што ён загінуў падчас вайны. Назвала год гібелі. Выжыць у акупацыйным Мінску было цяжка. Застаўся сын. І хоць рос сіратой, скончыў інстытут.

Гэта бабуля даводзіла мне, як прыклад для пераймання.

Я супаставіў успаміны маёй бабулі і жыццёвы шлях майго калегі. Усё супадала. Нашы бабулі былі роднымі сёстрамі. Зрабіў некалькі далікатных намёкаў на сваяцтва, але, не атрымаўшы зваротнай падтрымкі, адкінуў спробы. Мы засталіся ў адносінах добрых знаёмых. І гэта нас задавальняла.

Іосіф ПАЎКАЛАС, вёска Навасёлкі-1 Маладзечанскага раёна.

● КАЛЯНДАР

**6 ЛІСТАПАДА**

215 гадоў з дня нараджэння Леанарда Ходзькі (1800–1871), беларускага і польскага гісторыка, публіцыста, бібліёграфа, выдаўца. Нарадзіўся ў вёсцы Аборак, цяпер Маладзечанскі раён. Член таварыства філарэтаў. Ад 1819 сакратар Міхала Агінскага. У 1822 годзе эміграваў, з 1826 – у Парыжы. Пісаў на польскай і французскай мовах. Аўтар паэмы "Залессе" (1821), у якой усхваляў прыгажосць наваколля, зрабіў малюнкі Залесся (маёнтак Агінскага каля Смаргоні). Выдаў мемуары Агінскага, працы па гісторыі, геаграфіі, статыстыцы, у т.л. "Польшча" (1836–41), у якой шмат матэрыялаў пра Беларусь. Напісаў біяграфію Касцюшкі (1837). Сабраў 125 тамоў дакументаў па гісторыі Польшчы, Беларусі, Украіны і інш.

**11 ЛІСТАПАДА**

**140 гадоў** з дня нараджэння (1875–1951) Альберта Паўловіча, паэта-гумарыста, драматурга, мастака.

**12 ЛІСТАПАДА**

**95 гадоў** з дня нараджэння Андрэя Макаёнка (1920–1982), беларускага драматурга, народнага пісьменніка Беларусі. Нарадзіўся ў сялянскай сям'і. Падчас Вялікай Айчыннай удзельнічаў у баях на Крымскім фронце. Пасля цяжкага ранення (1942) дэмабілізаваны. З 1949 года – у часопісе "Вожык". У 1966–77 гадах – галоўны рэдактар часопіса "Нёман". Як член дэлегацыі БССР у 1965 удзельнічаў у рабоце 20 сесіі Генеральнай Асамблеі ААН. Член Саюза пісьменнікаў з 1949 года. Пісаў гумарэскі, фельетоны, нарысы. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Янкі Купалы (1962) за п'есу "Лявоніха на арбіце", Дзяржаўнай прэміі БССР імя Якуба Коласа (1974) за п'есы "Трыбунал" і "Таблетку пад язык". Апошні закончаны твор – трагікамедыя "Дыхайце эканомна" (апубл. 1983) – п'еса-прытча, у якой аб'ектам аўтарскага асэнсавання стала найважнейшая агульначалавечая праблема захавання Зямлі ад тэрмаядзернай катастрофы. Аўтар кінааповесці "Твой хлеб" (1956), сцэнарыяў фільмаў "Шчасце трэба берагчы" (1958), "Кандрат Крапіва" (1961), "Рагаты бастыён" (1975), тэлефільма "Пасля кірмашу" (1973).

**1930 год.** Нарадзіўся Восіп Блізнюк (в. Шаматова, цяпер Смаргонскі раён), удзельнік антыкамуністычнага падпольнага вучнёўскага руху ў Смаргоні, вязень савецкіх канцлагераў.

Марыя БЕРАСНЕВА.

ІНІЦЫЯТЫВА

## Наведнікі сацыяльнага цэнтра выраблялі сімвал раёна

ВАЛОЖЫН

28 кастрычніка ў рамках праекта "Рэгіянальныя сувеніры як сродак пабудовы агратурыстычных супольнасцяў" адбыліся майстар-класы з удзелам людзей з абмежаванымі магчымасцямі.

Мерапрыемства праходзіла ў аддзяленні дзённага знаходжання інвалідаў цэнтра сацабароны насельніцтва.

Майстрыха **Вольга Камінская** вучыла тэхніцы мастацкага валення з воўны, і большасць удзельнікаў змаглі менш чым за дзве гадзіны стварыць першую ў сваім жыцці валеную цацку – птушачку зімародка, неафіцыйны сімвал Налібоцкай пушчы.

Яна ў рамках праекта "Рэгіянальныя сувеніры як сродак пабудовы агратурыстычных супольнасцяў" прапануецца як афіцыйны сімвал Валожынскага раёна. Папуляцыя гэтай птушкі самая вялікая ў Беларусі менавіта ў Валожынскім раёне.

**Людміла Валковіч-Борыс** навучыла ўдзельнікаў семінара рабіць з саломкі кветкі.

Прадстаўнікі праекта паабяцалі падарыць аддзяленню дзённага знаходжання інвалідаў камплект іголак для валення.

Праект рэалізуецца ў Маладзечанскім і Валожынскім раёнах пры падтрымцы Федэральнага ўрада Германіі.

Аляксандр БЕЛЫ,
гаспадар аграсядзібы
"Марцінова Гусь".

ЗДАРЭННІ

## Чатыры чалавекі загінулі на чыгунцы

МАЛАДЗЕЧНА

Ад мая да верасня на чыгунцы ў Маладзечанскім раёне загінулі чацвёра. У трох выпадках пацярпелыя былі нецвярозыя. Адно здарэнне адбылося ў Маладзечне.

Хутчэй за ўсё, чалавек, які загінуў у Маладзечне, вырашыў так звесці рахункі з жыццём.

Вядомы выпадкі неапраўданай рызыкі. Каля 22:30 на станцыі Алёхнавічы машыніст убачыў жанчыну, якая бегла насустрач цягніку па асноўнай платформе.

Машыніст пачаў сігналіць, калі зразумеў, што жанчына хоча перабегчы праз пешаходны пераход насупраць станцыі, за 30 метраў да самога перахода. Машыніст пачаў экстранна тармазіць. Наезду не ўдалося пазбегнуць.

Паводле старэйшага следчага Маладзечанскага
райаддзела СК
Юрыя БАГУШЭВІЧА.

ЗДАРОЎЕ

# Псіхічнае расстройства адольвае кожнага чацвертага

**Спрадвеку псіхічнае расстройства выклікала страх. Чалавека з такой хваробай асуджалі і пазбягалі. У гады савецкай улады аб псіхічным здароўі ніхто не задумваўся. Меркавалася, што чалавек псіхічна здаровы толькі таму, што жыве па "правільнай ідэалогіі". Такі светапогляд фарміраваўся доўгія гады, таму сёння мы сутыкнуліся з праблемай кляймення як псіхічнага расстройства, так і зваротаў да доктара-псіхіятра-нарколага.**



Доктар-псіхіятр-нарколаг Юлія Цалікова.

Паводле азначэння Сусветнай арганізацыі аховы здароўя (СААЗ), псіхічнае здароўе – стан дабрабыту, пры якім чалавек можа рэалізаваць уласны патэнцыял, спраўляцца са звычайнымі жыццёвымі стрэсамі, прадуктыўна і плённа працаваць, уносіць уклад у жыццё сваёй супольнасці. У статуце СААЗ гаворыцца: "Здароўе – стан поўнага фізічнага, душэўнага і сацыяльнага дабрабыту, а не толькі адсутнасць хвароб і фізічных дэфектаў". Душэўны дабрабыт – гэта неад'емная частка здароўя чалавека.

> **Кожны чацверты жыхар на зямлі ў нейкі момант часу пакутуе на псіхічнае расстройства.**

Гэта азначае, што калі ў вас ёсць тры сябры, то ў нейкі перыяд часу камусьці аднаму з чацвярых спатрэбіцца дапамога псіхіятра, псіхатэрапеўта. Думка звярнуцца да спецыяліста часта прыходзіць да чалавека.

Аднак усё з-за таго ж кляймення мала хто звяртаецца.

### Шукаючы саматычную прычыну хваробы, губляюць час

Людзі шукаюць у сабе сур'ёзныя саматычныя хваробы, здаюць дарагія аналізы. Калі дактары разводзяць рукамі і паведамляюць, што саматычнай паталогіі няма, часцей за ўсё чалавек проста змяняе доктара і пачынае пошукі зноў. І так па замкнутым коле. Калі тэрапеўт прапануе кансультацыю доктара-псіхіятра-нарколага, гэта выклікае шквал абурэння. А калі стан пагаршаецца і ўжо ўсё роўна, куды звяртацца, ён прыходзіць да псіхіятра ці псіхатэрапеўта. Прыходзіць тады, калі стан ужо запушчаны і патрабуе большага часу на лячэнне.

Прыйшоўшы да псіхіятра, людзі дзівяцца, што ў псіхіятрыі працуюць кваліфікаваныя, добразычлівыя спецыялісты, бо ў думках яны малявалі сабе турму за сямю замкамі, дзе замест дактароў – наглядчыкі ў брудных, ірваных халатах, якія кідаюцца на чалавека з ўціхамірвальнай кашуляй.

Сёння псіхічнае расстройства лечыцца не горш, чым агульнасаматычныя захворванні. Дактары-псіхіятры, псіхатэрапеўты – гэта спецыялісты, якія атрымалі вышэйшую медыцынскую адукацыю і прайшлі гадавую інтэрнатуру па спецыяльнасці.

### Якія прычыны звярнуцца да доктара-псіхіятра-нарколага:

- Трывога, страх, якія былі раней не ўласцівыя.
- Туга, зніжэнне настрою, прыгнечанасць, нежаданне што-небудзь рабіць.
- Частыя змены настрою, ад прыгнечанасці да эйфарыі.
- Пагаршэнне памяці, увагі.
- Парушэнне сну – як павышаная дрымота, так і бяссонніца.
- Думкі пра нежаданне жыць.
- З'явіліся непрыемныя адчуванні (боль, дрыжыкі, дыскамфорт), якія не могуць растлумачыць дактары саматычнага профілю.
- Калі перанеслі стрэсавую сітуацыю, якая непакоіць, прычым для кожнага чалавека гэты стрэс можа быць розны. Для кагосьці страта блізкага чалавека, а для іншага – канфлікт з суседзямі.
- Калі часта з'яўляюцца думкі пра кансультацыю доктара-псіхіятра-нарколага.

Нават калі вы проста перастрахаваліся і не знаходзіце падстаў для прызначэння медыкаментознай тэрапіі, размова са спецыялістам можа прынесці шмат карыснага і для здаровага чалавека.

Зварот да доктара-псіхіятра-нарколага, згодна з законам Беларусі "Аб аказанні псіхіятрычнай дапамогі", з'яўляецца медыцынскай таямніцай.

Юлія ЦАЛІКОВА,
доктар-псіхіятр-нарколаг
Маладзечанскага
псіханеўралагічнага
дыспансера.

> **Чалавек хварэе па многіх прычынах: некаторыя хварэюць ад прастуды, іншыя ад стомленасці і гора.**
>
> Канфуцый.

### Як атрымаць медыцынскую дапамогу

**"Тэлефон даверу"** службы экстраннай псіхалагічнай дапамогі ў Мінску (8017) 202-04-01, кругласутачна.

**ВІЛЕЙКА**, нарколаг, тэл. (801771) 5-55-61, псіхіятр, 5-14-98.

**СМАРГОНЬ**, нарколаг, тэл. (801592) 4-67-79, псіхіятр, 4-67-95.

**АШМЯНЫ**, нарколаг, тэл. (801593) 44-8-01, псіхіятр, 45-0-43.

**ВАЛОЖЫН**, псіхіятр-нарколаг, тэл. (801772) 5-54-25.

**МЯДЗЕЛ**: (801797) 5-93-81.

**АСТРАВЕЦ**, тэл. (801591) 7-03-21.

**МАЛАДЗЕЧНА**

**Псіхіятр**: ПНД, кабінеты №1 і №2, тэл. 58-04-03, рэгістратура, тэл. 58-04-05.

**Нарколаг**: ПНД, кабінет №5, тэл. 75-34-08, і №9, тэл. 76-44-42; рэгістратура, тэл. 58-04-05.

**Псіхолаг**: паліклініка №1, кабінет №79, тэл. 74-91-71.

**Псіхіятр (дзіцячы)**: ПНД, кабінет №9, тэл. 76-44-42; рэгістратура, тэл. 58-04-05.

**Нарколаг (дзіцячы)**: ПНД, кабінет №9, тэл. 76-44-42; рэгістратура, тэл. 58-04-05.

**Цэнтр здароўя падлеткаў і моладзі**: гарадская паліклініка №1, кабінет №79, тэл. 74-71-91.

АДУКАЦЫЯ

## Нямецкія і беларускія школьнікі далі канцэрт у Маладзечне

МАЛАДЗЕЧНА

**Група навучэнцаў і педагогаў з Германіі наведала Маладзечна падчас восеньскіх канікулаў.**

Гімназія-каледж мастацтваў даўно наладзіла сувязь з гімназіяй імя Хойса з нямецкага горада Эслінген. Госці жылі ў беларускіх сем'ях.

– **Каралін**, якая жыла ў мяне, – вельмі таварыская і цікавая дзяўчына. Па вечарах мы гадзінамі размаўлялі з ёй. А вось маёй маме без ведання замежнай даводзілася цяжка, – расказала навучэнка 8 класа **Лізавета Васілеўская**.

Па словах дырэктара гімназіі-каледжа мастацтваў **Вольгі Хазікавай**, для гасцей падрыхтавалі насычаную культурную праграму. Яны наведалі Мірскі і Нясвіжскі замкі, маёнтак вядомага кампазітара М.К. Агінскага ў Залессі.

Гасцей уразіла прыгажосць вячэрняга Мінска і незвычайная архітэктура Нацыянальнай бібліятэкі.

Фінальным акордам стаў сумесны канцэрт творчых калектываў з абодвух бакоў, якія праводзіўся на нямецкай мове.

Беларускія школьнікі здзівілі нямецкіх ансамблем лыжачнікаў і аркестрам народных інструментаў пад кіраўніцтвам **Аляксандра Розіна**, а таксама разнастайнасцю танцаў.

Навучэнцы з Германіі парадавалі гледачоў музычнымі нумарамі ў стылі джаз.

Валерыя ЛУЖЫНСКАЯ,
навучэнка гімназіі-
каледжа мастацтваў.

КУЛЬТУРА

## Маладзечна стане культурнай сталіцай Беларусі 2016 года

МАЛАДЗЕЧНА

**Такое рашэнне прынялі на калегіі Міністэрства культуры Беларусі.**

Прэтэндэнтамі на статус культурнай сталіцы былі два гарады Мінскай вобласці – Слуцк і Маладзечна.

Рэспубліканская акцыя "Культурная сталіца" праходзіць ад 2010 года. Падчас яе рэалізуюцца праекты па прэзентацыі культурнай самабытнасці гарадоў, папулярызацыі традыцый і нацыянальнай культуры, павышэння турыстычнай прывабнасці рэгіёнаў.

Статус культурнай сталіцы Беларусі першым атрымаў Полацк у 2010 годзе. У 2011 годзе эстафету прыняў Гомель, затым Нясвіж (2012), Магілёў (2013), Гродна (2014). Сёлета тытул "Культурнай сталіцы Беларусі" носіць Брэст. Два гарады – Гомель і Магілёў – адначасова мелі статус "Культурная сталіца СНД".

Паводле tut.by.

ТЭМА НУМАРА



Ірына Паўлоўская, дырэктарка кавярні "Мезанін".

Таццяна Кугара, доктар-гігіеніст цэнтра гігіены і эпідэміялогіі.

Вольга Лазар, дырэктарка клуба "Рэд Бар".

Bazinato (Ігар), мастак.

Наталля Тур, карэспандэнтка "РГ", вядоўца "круглага стала".

Фота receptok.ru.

# Мы не ўмеем хадзіць у кавярні

МАЛАДЗЕЧНА

**"Круглы стол" па пытаннях культуры грамадскага харчавання адбыўся ў "Рэгіянальнай газеце" 30 кастрычніка.**

У рэдакцыю газеты запрасілі дырэктарку клуба "Рэд Бар" **Вольгу Лазар**, дырэктарку кавярні "Мезанін" **Ірыну Паўлоўскую**, доктара-гігіеніста цэнтра гігіены і эпідэміялогіі **Таццяну Кугару** і мастака **Bazinato** (Ігара). Ён аформіў каля 10 кавярняў, у Маладзечне сярод іх кафэ "Мезанін" і ўжо зачыненае "Метро".

Вяла стол журналістка **Наталля Тур**. Дапамагалі ёй пытанні чытачоў з сайта "РГ".

Падчас "круглага стала", які доўжыўся дзве гадзіны, удзельнікі абмеркавалі тыя праблемы, з якімі ім даводзіцца сутыкацца.

У матэрыяле – самае важнае, што было агучана на сустрэчы.

## Ніводны гаспадар не ведае, для каго ён адкрывае кафэ

– Каб адкрыць кафэ, трэба прыкласці шмат часу і намаганняў, – лічыць Ігар. – А ў нас як робіцца – абы хутчэй. Самае дзіўнае, што калі просяць аформіць кавярню, гаспадары не ведаюць, у якім стылі яна будзе, хто яе будзе наведваць. Ды і ўвогуле не ўяўляюць, як яна павінна выглядаць. Таму кафэ ў нас усе аднолькавыя, няма ў гэтым горадзе прасторы для творчасці.

Аднак гаспадыні кавярняў лічаць, што тэматычныя кавярні ў Маладзечне рабіць нямэтазгодна.

– Кафэ і цяпер паўпустыя стаяць, а калі яшчэ зрабіць іх вузкаспецыялізаванымі... – разважае Ірына Паўлоўская. – У нас няма культуры наведвання кавярняў. Раніцай, напрыклад, ніхто не прыходзіць з'есці амлет, выпіць кавы і пачытаць газету. І больш за ўсё скаргаў ад наведнікаў на музыку, якая гучыць ці моцна, ці ціха, ці ўвогуле не тая.

А самым лепшым кампліментам "Мезаніну" Ірына лічыць тое, што калі ў кафэ прыйшла сям'я, то маленькі хлопчык, сын пары, сказаў: "Тут пахне піражкамі, я хачу тут застацца".

## Кафэ без парушэнняў у Маладзечне няма

Музыка і пахі – гэта таксама складнікі іміджу кафэ, за якімі трэба пільна сачыць. А за санітарным станам сочаць спецыялісты Маладзечанскага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі.

Планавыя праверкі аб'ектаў харчавання робіцца адзін раз на год. Акрамя гэтага існуюць пазапланавыя, дата якіх не паведамляецца гаспадарам.

– І ў кожнай такой праверцы, – кажа Таццяна Кугара, – выяўляюцца парушэнні. Пераважна кавярні не выконваюць умовы захавання прадуктаў, іх суседства. Своечасова не праводзяць рамонт. Сёлета з-за гэтых прычын была прыпыненая дзейнасць чатырох аб'ектаў грамадскага харчавання.

## Кафэ з катамі ў Маладзечне з'явіцца не хутка

У Еўропе сталі папулярнымі ўстановы, дзе жывуць жывёлы. У Вільні, напрыклад, дзве кавярні носяць назву "Каціныя".

На пытанне, калі ў нас дазволяць такую, Таццяна Іванаўна была катэгарычнай:

– Ніколі. І справа ў тым, што самі гаспадары не гатовыя несці адказнасць за бяспеку і здароўе наведнікаў на такім узроўні.

З гэтай жа прычыны ў нас няма маленькіх кавярняў, дзе гаспадыні могуць прадаваць тое, што спяклі ў дамашніх умовах.

## "Чорны спіс" супрацоўнікаў. Нашто ён гаспадарам кавярні?

Падчас размовы Ірына Паўлоўская агучыла думку, што няблага было б гаспадарам усіх кавярняў скласці "чорны спіс" супрацоўнікаў.

– Справа ў тым, што на работу прыходзяць людзі, якіх звольнілі з іншых кавярняў. І вельмі сур'ёзная праблема для кавярняў – гэта бармены, якія выпіваюць на рабоце, або афіцыянты, якія могуць проста не выйсці на працу. Калі б гаспадары мелі агульны "чорны спіс" ненадзейных работнікаў, то пазбавілі б адзін аднаго адной з праблем.

## Кавярня пачынаецца з шыльды

– Мне нават не трэба ўваходзіць унутр кавярні, каб зразумець, што гэта за месца, – кажа Ігар Bazinato. І па адной толькі шыльдзе я магу зразумець, што ў гэтай кавярні, напрыклад, хамаватыя афіцыянткі або катлеты, як пачвары.

У кавярнях важная любая драбяза. Ці то посуд, ці абрусы, ці музыка, ці святло. Усё гэта стварае атмасферу і нельга забывацца ні пра што.

## Дзе можна будзе паглядзець кіно або наведаць антыкафэ

Ідэй, як зрабіць кавярню прывабнай для наведнікаў, кажа Вольга Лазар, у іх шмат.

– Толькі вось чамусьці людзі палохаюцца слова "бар" у нашай назве, з дзецьмі заходзяць рэдка. А між тым у нас можна ўжо ад 11 раніцы папіць кавы. Апошнім часам карыстаецца папулярнасцю прагляд футбольных матчаў.

У планах запусціць прагляд кіно. Разглядаюць магчымасць стварыць у "Рэд Бары" антыкафэ.

– Гэта калі вы плаціце толькі за ўваход, а напоямі і закускамі частуецеся, пакуль гутарыце з тым, з кім прыйшлі ў кавярню.

Ірына больш скептычна ставіцца да таго, што такія фарматы зацікавяць маладзечанцаў:

– Колькі ў нас было спробаў рабіць штосьці падобнае! І канцэрты ладзілі, і кіно паказвалі. Было, што спрабавалі тыдні французскай ці італьянскай кухні рабіць. Не цікавіць гэта наведнікаў.

**Пакуль людзі ходзяць у кафэ выпіць і закусіць, а не адпачыць.**

Усе спробы разнастаіць правальныя.

## Чаму ў Маладзечне кафэ працуюць да трох ночы?

Пытанне, адказ на якое дырэктары ўстаноў хацелі б атрымаць адказ.

– У Мінску, наадварот, адчыняюцца ўстановы, якія працуюць кругласутачна. Чым мы горшыя?

## Ці крадуць прадукты з банкета і іншыя пытанні чытачоў

Падчас "круглага стала" мы запрашалі чытачоў дасылаць свае пытанні, на якія адказалі госці.

**– Чаму ў кавярні заўсёды халодная кава?**

– Гэта пытанне канкрэтна да афіцыянтаў, якія марудна яе нясуць.

**– Ці сочыць цэнтр гігіены за чысцінёй абрусаў, посуду, падлогі?**

– Любая праверка пачынаецца з залы для наведнікаў. Вядома, сочым.

**– Раздражняе, калі замаўляеш нейкую страву, а яе няма. Для чаго яна тады стаіць у меню?**

– Стоп-лісты – гэта звычайная практыка кавярняў. Бывае, што нейкі прадукт не давезлі пастаўшчыкі. Афіцыянты проста адразу вас пра гэта папярэдзяць.

**– Ці праўда, што ўсе кавярні крадуць прадукты, калі заказваеш банкет?**

– Кавярні ўвогуле не павінны браць прадукты ў наведнікаў. Атруціцца наведнік – адказваць будзе кавярня, – адказала Таццяна Кугара.

НАВІНЫ

## "Смаргонь" атрымала трэцюю перамогу запар

СМАРГОНЬ

"Смаргонь" 1 лістапада на дамашняй арэне прымала ФК "Баранавічы". За дзесяць хвілін у сярэдзіне другога тайма смаргонцы забілі два галы. Вызначыліся **Сяргей Крот** і **Аляксандр Талканіца**. Больш галоў у матчы не было: 2:0 на карысць гаспадароў.

У мінулым туры "Смаргонь" абыграла ў гасцях сталічную "Зорку-БДУ" з лікам 4:1. "Смаргонь" па-ранейшаму трымаецца на пятым месцы ў першай лізе.

## "Ашмяны" набралі ачко

АШМЯНЫ

ФК "Ашмяны" ў фінальнай частцы чэмпіянату Беларусі па футболе ў другой лізе дома 31 кастрычніка гуляў з "Клецкам". Галоў гледачы не пабачылі: 0:0

"Ашмяны" з 15-цю ачкамі знаходзяцца на пятым месцы.

## "Вілія" са Смаргоні згуляе залаты матч за чэмпіёнства

СМАРГОНЬ

У апошнім туры чэмпіянату Гродзенскай вобласці па футболе каманда "Цэментнік" не прыехала на матч супраць "Віліі" ў Смаргонь, паведаму гулец "Віліі" **Віталь Будай**. Гасцям залічылі тэхнічнае паражэнне, а смаргонцы атрымалі тры ачкі.

"Вілія" набрала роўную колькасць ачкоў з ФСК "Гродзенскі" – па 23. Каб вызначыць пераможцу, адбудзецца залаты матч паміж гэтымі дзвюма камандамі.

## "ДЮСШ-4" з Маладзечна засталося без узнагарод абласнога чэмпіянату

ВІЛЕЙКА, МАЛАДЗЕЧНА

У апошнім туры чэмпіянату Мінскай вобласці па футболе "ДЮСШ-4" з Маладзечна 1 лістапада дома прымала "Забудову-Буд" з Чысці. Маладзечанцы ішлі на трэцім месцы. У выпадку перамогі над камандай з Чысці і нядалай гульні канкурэнта, ФК "Фалько", маглі прэтэндаваць на другое.

Але "ДЮСШ-4" прайграла землякам 3:4 і аказалася на чацвертым месцы. Абышлі іх "Старыя Дарогі". Каманда без аніякіх намаганняў набрала тры ачкі (іх сапернікам залічылі тэхнічнае паражэнне за няяўку на гульню).

А чэмпіёнам вобласці яшчэ за тур да заканчэння стаў "Колас" з Чэрвеня.

У мінулым туры "Вілія" прайграла дома ФК "Фалько" 0:1.

– Шкада нашу каманду: не заслугоўвала "Фалько" перамогі, – лічыць заўзятар "Віліі" **Артур Мінчук**. – Несправядлівае судзейства прывяло да незалічанага гола ў вароты "Фалько" ў першым тайме. Пад канец матча павінны быў Павел Ляпета забіваць, але ўдача была не нашым баку. А ў канцоўцы на апошніх хвілінах прапусцілі гол.

А ў гэтым туры "Вілія" 1 лістапада ў гасцях прайграла "Нёман-Агра" 1:5. "Вілія" скончыла чэмпіянат на дзясятым месцы.

"Забудова-Буд" – на восьмым месцы. Але ў чэмпіянаце засталося дагуляць некалькі гульняў, і чысцінцаў можа пацясніць "СМІаўтатранс".

## Следчыя з Маладзечна паказалі клас у плаванні

МАЛАДЗЕЧНА

Прайшоў чэмпіянат па плаванні сярод супрацоўнікаў упраўлення Следчага камітэта па Мінскай вобласці. У спаборніцтве прыняло ўдзел больш за 70 спартсменаў, расказала афіцыйны прадстаўнік упраўлення Следчага камітэта па Мінскай вобласці **Таццяна Беланог**.

Спаборніцтвы праводзіліся ў два этапы: індывідуальны заплыў на дыстанцыях 25 метраў у жанчын, 50 метраў у мужчын і камандная эстафета.

Сярод прадстаўнікоў рэгіёна найлепш выступіла следчая Маладзечанскага раяддзела Следчага камітэта **Марына Прастакова.**

Таксама каманда Маладзечанскага раяддзела заваявала "срэбра" ў эстафеце.

## Стартаваў турнір па міні-футболе

МЯДЗЕЛ, ВІЛЕЙКА

У Мядзеле пачаўся міжрэгіянальны турнір па міні-футболе.

У першым туры 1 лістапада каманда "Зубраня" разграміла "Мядзел" 6:1. "Шылавічы" прайгралі мядзельскай камандзе "Юнацтва" 3:4. "Вілейка" перамагла "Паставы" 5:0.

Пра гэта паведаміў паведаміў дырэктар Мядзельскага фізкультурна-аздараўленчага цэнтра **Андрэй Русак**.

Алесь ВЫСОЦКІ.



Фота Максіма БУЛАЎСКАГА, Івана БАРКОЎСКАГА.

Удзельнікі спаборніцтваў "Трафей-2015", якія прайшлі на возеры Нарач, з чэмпіёнскім акунём.

РЫБНАЯ ЛОЎЛЯ

# Налавілі рыбы і... разам адпусцілі

МЯДЗЕЛ

**Гэтак зрабілі ўдзельнікі спаборніцтваў па лоўлі рыбы спінінгам "Трафей-2015". Прайшлі яны 31 кастрычніка і 1 лістапада на возеры Нарач.**

Удзельнічала больш за 50 рыбаловаў з розных рэгіёнаў Беларусі і адзін грамадзянін Літвы. Спаборнічалі ля аўтакемпінгу "Нарач". Папярэднічала спаборніцтвам трэніроўка. А ў суботу і нядзелю прайшлі два туры. На старт выйшла каля 30 экіпажаў лодак. У кожным было ад аднаго да чатырох чалавек.

У залік прымалі толькі буйны ўлоў – трафейную рыбу. Напрыклад, для шчупака мінімальная даўжыня была 60 сантыметраў, для акуня – 25.

Удзельнікі павінны былі жывую рыбу адразу прывезці ў судзейскі лагер. Тут устанавілі басейн, напоўнілі яго азёрнай вадой. Суддзя вымяраў рыбіну, пасля чаго яе выпускалі ў басейн.

– Для Нарачы гэта першы досвед правядзення такіх спаборніцтваў, – расказвае спецыяліст аддзела турызму Нацыянальнага парку "Нарачанскі" **Анатоль Углянец**. – Людзі зацікаўленыя сабраліся і выпрабавалі рыбацкую ўдачу на Нарачы. У якой каманды рыба дрэнна бралася ўсю суботу, а на наступны дзень за паўгадзіны да заканчэння злавілі буйную рыбіну. І, урэшце, выйгралі спаборніцтвы.

### Найдаўжэйшы шчупак – у 91 сантыметр

Прызы разыгралі ў трох намінацыях. Найлепшы "трафейны шчупак" даўжынёй у 91 сантыметр аказаўся ў каманды "Ждановічы". Найбольшы акунь (37 сантыметраў) – у каманды "Алегін". У агульным заліку перамагла каманда jerkbait.by.

Пераможцы і прызёры атрымалі каштоўныя прызы. Скажам, за найдаўжэйшага шчупака ўручылі добры спінінг.

Пасля ўзнагароджання ўсе ўдзельнікі рыбу з басейна выпусцілі ў возера.

– Хай гэта не легендарныя шчупакі на паўтара пуда або акуні, якія згадваюцца ў мясцовых байках і легендах, але гэта ж спаборніцтвы, – дзяліліся потым на форуме Беларускага рыбалоўнага інтэрнэт-клуба. – Я сказаў бы, што рыба слаба бралася... І тым не менш, хоць бы ў басейне ў нас, можна сказаць, небывалы і па колькасці, і па якасці. З чаго раблю выснову, што вадаём перспектыўны, а ўлічваючы абшары – і вельмі цікавы для спаборніцтваў.

Спаборніцтвы арганізавала грамадскае аб'яднанне БРІК пры садзейнічанні Нацыянальнага парку "Нарачанскі".

Алесь ВЫСОЦКІ.

ФУТБОЛ. ДРУГАЯ ЛІГА

# "Маладзечна ДЮСШ-4" саступае камандзе з Узды і фактычна губляе шанец выйсці ў першую лігу

МАЛАДЗЕЧНА

**31 кастрычніка на гарадскім стадыёне адбылася гульня 24 тура чэмпіянату Беларусі па футболе ў другой лізе, якая скончылася для маладзечанцаў паразай – 1:2.**

Адзіны гол у вароты каманды-саперніцы ў другім тайме забіў паўабаронца каманды "Маладзечна ДЮСШ-4" **Сяргей Галюк.**

Пасля суботняй гульні маладзечанцы з 17 ачкамі застаюцца на чацвертым радку турнірнай табліцы. Ад лідараў, каманды "Тарпеда" і каманды "Узда", іх цяпер аддзяляе 7 і 5 ачкоў адпаведна.

Да канца чэмпіянату застаецца дзве гульні.

7 лістапада "Маладзечна ДЮСШ-4" згуляе на выездзе ў Мінску супраць каманды "Прамень" (Мінск).

Завяршыцца сезон 2015 года 14 лістапада, калі маладзечанцы прымуць у сябе каманду з Клецка.

### Турнірная табліца

| № | Каманда | Гульні | Выйгрышы | Нічые | Паражэнні | Мячы | Ачкі |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Тарпеда (Мінск) | 12 | 7 | 3 | 2 | 18-8 | 24 |
| 2 | Узда | 12 | 6 | 4 | 2 | 23-13 | 22 |
| 3 | Прамень (Мінск) | 12 | 7 | 1 | 4 | 20-12 | 22 |
| 4 | Маладзечна ДЮСШ-4 | 12 | 4 | 5 | 3 | 15-12 | 17 |
| 5 | Ашмяны | 12 | 4 | 3 | 5 | 16-17 | 15 |
| 6 | Клецк | 12 | 4 | 2 | 6 | 12-17 | 14 |
| 7 | Вікторыя (Мар'іна Горка) | 12 | 4 | 2 | 6 | 12-19 | 14 |
| 8 | Асіповічы | 12 | 2 | 0 | 10 | 14-31 | 6 |

Наталля ТУР.

## Камент-эксперт

**Не трымайце ў сабе: напішыце, што думаеце**

Пакідайце каментары пад артыкуламі на інтэрнэт-старонцы Rh.by ці ў суполках газеты ў сацсетках

**Штосьці раздражняе ў маладзечанскіх кавярнях? Скажы пра гэта ўласніку**

Калі афіцыянткі ў нашых кавярнях пачнуць усміхацца? Добра, няма ў вас кавы на вынас, дык можна пра гэта сказаць шчыра і ветліва, а не буркнуць пад нос "у нас такого не бывает". І яшчэ хочацца меню на беларускай мове, каб хоць адно якое было на кавярню, мм? ***Ых.***

Калі ў гэтым горадзе ўжо будзе нармальная кавярня? З кавай на вынас, вай-фаем і ўтульнымі канапамі? ***Варэнік.***

Не хапае ў горадзе ўвогуле кавярняў! ***Ала.***

Раздражняе, што прыходзіш у кавярню, а там "Выбачайце, кухня ўжо не працуе". Нашто тады працуеце вы? ***Марс.***

**Аўтапрабег на Вілейшчыне пройдзе па месцах, дзе ўстанавілі новыя помнікі і памятныя знакі**

"Ад Вілейкі да Забароддзя. У пяты раз прайшоў аўтапрабег па мясцінах Першай сусветнай". А па мясцінах Другой сусветнай хоць адзін які ды калі-небудзь пройдзе?! Хоць убачылі б, да якога стану даведзеныя воінскія пахаванні мінулай вайны, я ўжо не кажу пра пахаванні, якія не маюць статуса воінскіх! Нагадаю, калі забыліся! У Другой сусветнай загінуў амаль кожны трэці беларус! Чаму у вас сэрца шчыміць толькі па замежніках?! ***Алесь Раткевіч.***

**У Вілейцы збілі скутарыста – не прапусціў яго жыхар Мядзельскага раёна**

Нехарошае там скрыжаванне, пастаянна лупяцца. ***Аляксандр.***

### МОВА




Фота kalili.by.

**З'явіўся беларускі насценны каляндар "Не маўчы па-беларуску" на высакосны 2016 год. Ён праілюстраваны арыгінальнымі малюнкамі на 12 тэм, асобнай на кожны месяц: Каляды, посуд, дом, кветкі, мэбля, адпачынак, адзенне, ураджай, канцылярскія прылады, сады і гаспадарчы інструмент, птушкі і жамяра, ежа і піто. Ідэя праекта і малюнкі – Дар'і Мандзік.**

### ГАРАСКОП 6-12 ЛІСТАПАДА

**Авен.** Ніколі не позна. Позна – гэта толькі апраўданне для таго, каб не спрабаваць. Дабіцца пастаўленай мэты можна ў любым узросце.

**Цялец.** Вам трэба правільна размеркаваць свой час. Адну яго частку аддавайце рабоце, другую – адпачынку, а трэцюю – асабістым узаемаадносінам. Толькі так вы адчуеце сябе больш свабодна, і выконваць паўсядзённыя задачы стане лягчэй.

**Блізняты.** Будзьце да сябе больш паблажлівыя, не патрабуйце ад сябе шмат. Пры адстойванні сваіх інтарэсаў праявіце настойлівасць.

**Рак.** Звяртайце ўвагу на здароўе. Бо ад таго, як будзеце сябе адчуваць, залежаць шчасце ў асабістым жыцці, поспех, кар'ера.

**Леў.** Каб не адбываліся ў арганізме збоі, якія праяўляюцца ў выглядзе бяссонніцы, нервовых цікаў, прастудных захворванняў, панікання ці павышэння ціску, не накоплівайце ў сабе эмацыйныя буры, навучыцеся сачыць за сваёй нервовай сістэмай.

**Дзева.** Не дазваляйце пабочным асобам умешвацца ў ваша жыццё, бо іх добрыя парады могуць прывесці да плаксівых вынікаў.

**Шалі.** Разбярыцеся са старымі рэчамі і пачуццямі і выкіньце хлам не толькі з дома, але і з галавы.

**Скарпіён.** Пачынайце новыя справы ну проста з панядзелка. Гэта тычыцца і працы, і любоўных адносін. І не трацце час на пустое.

**Стралец.** Калі ў вас вялікі аб'ём работы, і гэта тэрмінова, адшукайце ўнутраныя рэзервы. Як толькі вы пераключыцеся, то адразу ж заўважыце, як у вас адкрываецца другое дыханне і з'яўляюцца новыя сілы.

**Казярог.** Ідзіце на ўступкі, калі ў гэтым ёсць патрэба, і настойвайце на сваім у выпадках, калі кампрамісы недапушчальныя.

**Вадалей.** Працуйце над сабой, мяняйце да лепшага свае адносіны да людзей і да свету. Не будзьце ганарлівыя, бо менавіта ганарлівасць будзе перашкаджаць развівацца.

**Рыбы.** Калі ў вас дрэнны настрой – ешце цытрусавыя, гуляйце па сонейку, з'ешце кавалачак шакаладу. Абавязкова высыпайцеся і не перагружайце сябе сумнымі справамі.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

### РЭПЕРТУАРЫ

## Мінскі абласны драматычны тэатр

*РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ*

"**Всё будет хороШОУ!**" (прыгодніцкае шоу-прадстаўленне), *Алег Чэчанеў*
12 лістапада, чацвер, – у 11:30

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

"**Месье з рагамі, мадам з вусамі**" (вадэвільная гісторыя ў 2-х дзеях), *Марсэль Берк'е-Марыньe, Анатоль Курбскі*
10 лістапада – у 19:00

"**№13**" (камедыя ў 2-х дзеях), *Рэй Куні*
13 лістапада – у 19:00

Тэатр мае права на замену спектакляў

***Маладзечна, вуліца Чкалава, 7.***

Тэл. для даведак:
**75-24-17** (каса),
**75-29-16** (намеснік дырэктара).
E-mail: modt@tyt.by,
http://theatre-modt.by/.



## Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

"**Васіліса прыгажуня**" (чарадзейная казка), К.Чарняк (рус.мова)
8 лістапада – у 12:00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе:

***Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.***
Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 76-84-27.**



## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Мультфільм, прыгоды, ваенны "**Крэпасць: Шчытом і мячом**" (Расія, 2015, без узроставых абмежаванняў)
5 лістапада – у 17:10
7 лістапада – у 14:00
8 лістапада – у 12:00
Цана білета: 25 000 рублёў

Анімацыя, прыгоды "**Перапалох у джунглях**" (3D, Мексіка, Паўднёвая Карэя, 2015)
7 лістапада – у 12:00
8 лістапада – у 14:00
Цана білета: 15 000 рублёў

Фэнтэзі, прыгоды, сямейны "**Пэн: Падарожжа ў Нетландыю**" (3D, ЗША, 2015, без узроставых абмежаванняў)
7 лістапада – у 15:50
Цана білета: 30 000 рублёў

Прыгоды, фантастыка "**Марсіянін**" (3D, ЗША, 2015, пасля 16 год)
5 лістапада – у 21:30
8 лістапада – у 16:00
Цана білета: 55 000 рублёў

Драма, крымінал, біяграфія "**Чорная імша**" (ЗША, 2015, пасля 18 год)
5 лістапада – у 19:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Прэм'ера! Баявік, трылер, прыгоды "**007: Спектр**" (ЗША, Вялікабрытанія, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
6, 7 лістапада – у 18:00, 20:50 і 23:40
8 лістапада – у 18:40
8, 12 лістапада – у 21:30
9, 10, 11 лістапада – у 18:00 і 21:00
Цана білета: 45 000-50 000 рублёў

Прэм'ера! Мультфільм, прыгоды, фэнтэзі "**Сава. Сэрца воіна**" (3D, Расія, 2015, без узроставых абмежаванняў)
12 лістапада – у 17:10
Цана білета: 30 000 рублёў

Прэм'ера! Фэнтэзі, трылер, жахі "**Багровы пік**" (ЗША, Канада, 2015, пасля 16 год)
12 лістапада – у 19:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Тэл. : **8(0176) 77-15-92, 77-06-30.**

**Забраніраваць білет можна праз сеціва на сайце megamag.by.**

## Кінатэатр "Мір", Вілейка

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Камедыя "**8 новых спатканняў**" (Расія, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
6 лістапада – у 18:00
7, 8 лістапада – у 20:00
11 лістапада – у 18:30
12 лістапада – у 19:55
Цана білета: 35 000 рублёў

Баявік "**Джон Уік**" (ЗША, пасля 16 год)
6, 11 лістапада – у 20:00
7, 8 лістапада – у 18:00
12 лістапада – у 18:10
Цана білета: 35 000 рублёў

Анімацыя "**Чароўная краіна**" (Кітай, без узроставых абмежаванняў)
7, 8 лістапада – у 14:00
Цана білета: 12 000 рублёў

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Анімацыя, фэнтэзі "**Монстры на канікулах 2**" (3D, ЗША, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
6 лістапада – у 17:30
7, 8 лістапада – у 17:00
Цана білета: 50 000 рублёў
7, 8 лістапада – у 13:00
Цана білета: 30 000 рублёў

Сямейны, фэнтэзі, прыгоды "**Пэн: Падарожжа ў Нетландыю**" (3D, ЗША, без узроставых абмежаванняў)
6 лістапада – у 19:30
Цана білета: 50 000 рублёў
7 лістапада – у 14:50
Цана білета: 30 000 рублёў

Трылер, драма "**Радзіма**" (2D, Расія, з 16 год)
6 лістапада – у 21:30
8 лістапада – у 19:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Фантастыка, прыгоды "**Марсіянін**" (3D, ЗША, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
7 лістапада – у 18:50
11 лістапада – у 20:30
Цана білета: 55 000 рублёў

Баявік, драма, крымінал "**Чорная імша**" (2D, ЗША, з 18 год)
7 лістапада – у 21:30
11 лістапада – у 18:00
Цана білета: 55 000 рублёў

Анімацыя, прыгоды "**Крэпасць: шчытом і мячом**" (2D, Расія, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
8 лістапада – у 14:50
Цана білета: 25 000 рублёў

Фантастыка, баявік "**Бягучы ў лабірынце: Выпрабаванне агнём**" (3D, ЗША, пасля 16 год)
8 лістапада – у 21:20
Цана білета: 55 000 рублёў

Анімацыя, фэнтэзі, прыгоды "**Сава. Сэрца воіна**" (3D, Расія)
12 лістапада – у 17:30
Цана білета: 30 000 рублёў

Тэл. **8(01771) 5-68-59.**

### СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 7 | 9 | | | 1 | | 5 |
| 5 | 2 | | | 1 | 4 | | | |
| 1 | | | | | | | | 2 |
| | 6 | | 7 | | | 8 | | 1 |
| | | | | | | | | |
| 3 | | 5 | | | 8 | | 9 | |
| 7 | | | | | | | | 6 |
| | | | 4 | 5 | | | 7 | 8 |
| 2 | | 4 | | | 1 | 5 | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



ISSN 1991-7155

Камент-эксперт
Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар +375 (29) 67-68-420, на e-mail regionnews@rh.by або пакінь каментар на Rh.by

# Рэгіянальная газета. Rh.by

● НАДВОР'Е

## 7 лістапада, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +4 / +6 | | +3 / +6 | | +3 / +11 | | +9 / +8 | |
| | 750 | ← 3 | 750 | ↑ 4 | 735 | → 6 | 741 | ↘ 3 |
| Вільня | +5 / +7 | | +4 / +7 | | +4 / +11 | | +8 / +9 | |
| | 758 | ↑ 2 | 757 | ↗ 6 | 741 | ↗ 8 | 750 | → 4 |

Тэмпература паветра, Воблачнасць ападкі, Цiск (мм рт. сл.), Хуткасць ветра м/с. Усход, захад па Маладзечне

Усход 8.26
Захад 17.26
Даўжыня дня 9.00

Усход 3.28
Захад 16.05
Квадра 4




● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

ВАЛОЖЫН

Мінімальная тэмпература -8,1 °C у 1982 годзе
Максімальная тэмпература +13,7 °C у 2014 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 12,7 мм у 1991 годзе
Назіранні за 38 год. Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

- Як дапамагла "Рэгіянальная газета" сваякам з Латвіі знайсці пляменніцу бабулі з Вілейшчыны. І збіраюцца сустрэцца – праз 55 год.



● НАШЫ ГРОШЫ

## Абвешчаная дэнамінацыя: беларусы перастануць быць мільянерамі

У Беларусі ад 1 ліпеня 2016 года будзе праведзеная дэнамінацыя. Як паведамілі ў прэсслужбе кіраўніка краіны, **Аляксандр Лукашэнка** 4 лістапада падпісаў указ №450 "Аб правядзенні дэнамінацыі афіцыйнай грашовай адзінкі Рэспублікі Беларусь".

Дакументам пастаноўлена правесці ад 1 ліпеня 2016 года дэнамінацыю афіцыйнай грашовай адзінкі Беларусі і зрабіць замену да 31 снежня 2016 года грашовых знакаў узору 2000 года ў выглядзе банкнот на грашовыя знакі ўзору 2009 года ў выглядзе банкнот і манет у суадносінах Br10 тысяч ва ўзорах 2000 года да Br1 у грашовых знаках ўзору 2009 года.

Нацыянальнаму банку даручана забяспечыць выпуск у абарот грашовых знакаў узору 2009 года і вывад з абарачэння грашовых знакаў узору 2000 года.

**Аддзел інфармацыі.**

Чытайце навіны на сайце Rh.by



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Ці ясце вы ў грамадскіх месцах харчавання?



**Вадзім Каспяровіч, навучэнец:**
– Звычайна ем дома, не хаджу ў кафэ альбо сталовыя. У абед куплю булачку, чай. Гэта больш танна, а падмацавацца можна добра.



**Алена Макрыцкая, у дэкрэтным адпачынку:**
– Цяпер не хаджу ў кафэ і сталовыя, гатую дома. Раней абедала ў бістро. Можна было хутка падмацавацца, стравы смачныя, цэны прымальныя. Таму ніякіх нараканняў не маю.



**Аліна Савіцкая, навучэнка:**
– Зрэдку хаджу ў піцэрыю на нейкія мерапрыемствы. Прытрымліваюся здаровага харчавання. Таму гатую стравы сама. Правільнае харчаванне – гэта падмурак, на якім трымаецца здароўе чалавека.



**Наталля Кулікова, Таццяна Батрушкевіч, настаўніцы:**
– Абедаць ходзім разам ці ў "Мезанін", ці ў "Родны кут". У першым з кафэ вельмі ўтульна, стравы смачныя. Апошнім часам порцыі малаватыя, часам заказ даводзіцца чакаць доўга. У абед хочацца, каб яду прынеслі як мага хутчэй. У "Родным куце" больш танна. Ні разу не было, каб жываты паскрувала.



**Жанна Лобан, прадпрымальніца:**
– Звычайна купляю стравы ў бістро, што каля рынку. Гэта эканоміць час – прыйшоў, хуценька купіў і зноў на рабочае месца. Кафэ і рэстараны выдатна падыдуць, калі трэба адзначыць вялікую ўрачыстасць. Не трэба ўвесь дзень карпець над стравамі, а пасля цэлую ноч прыбіраць і мыць посуд.



**Ксенія Уладыка, навучэнка:**
– Я за правільнае харчаванне, таму не хаджу ў кафэ і сталовыя. Гатую сама, ем аўсянку, тварог, бананы.



**Раман Мейсак, майстар па будаўніцтве:**
– Часам даводзіцца есці ў сталовых альбо перакусваць у бістро. У цэлым усё добра. Аднак часам трапляецца посуд з трэшчынамі, сколамі, аб якія можна параэацца.

**Падрыхтавала Галіна СІНІЦА.**


Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№45 (1071) 6.11.2015. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 1413. Падпісана ў друк у 9.00 5.11.2015.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.